*Расследование*

# Кто летает и куда?

**Николай ГАЛКО**

Письма, как известно, пишут разные. В том числе и такие, которые вызывают двойственное отношение. С одной стороны, называются тревожные факты (без проверки их оставлять нельзя), с другой — в письме полно убийственно-эмоциональных слов, которые при всем уважении к их авторам необходимо вычеркивать.

Письмо группы офицеров, попросивших сохранить в тайне их фамилии, из разряда таких. Для начала они сделали комплимент "Народной газете": мол, "надеемся, что вы боретесь за народ и его добро", а потом упрекнули: "последнее время вы печатаете много негативного про армию, но это все старые факты".

У каждого свое мнение, и дело в общем-то не в соотношении комплиментов и упреков. Хочется только возразить в отношении количества негативного. Этих материалов вовсе не больше реального негатива. Редакция иногда сознательно оставляет в архиве ту или иную негативную статью на военную тему. Насчет старых фактов — тоже перебор, нас интересует, естественно, степень их новизны, но в большей степени уровень их достоверности.

Но вернемся к письму: "Не далее как в пятницу 30 июля в 10 утра с военного аэродрома поднялся военный самолет и министр обороны вместе со своими заместителями, женами, детьми летит на отдых в южном направлении. Где берется горючее, которого так не хватает в армии?".

Редакция обратилась к заместителю председателя Контрольной палаты, народному депутату Василию Долголеву с просьбой расследовать этот факт.

Первое, что выявил главный контролер палаты Григорий Ложечник, военные самолеты все-таки летают. Взлетел в указанное в письме время (авторы ошиблись на пять минут) и самолет Министерства обороны ТУ-134 (командир экипажа Гончаренко).

Ну, а как же насчет министра, заместителей, жен, детей?

Прежде всего хочется сказать — не завидуйте контролерам, их хлеб нелегок. Чем принципиальнее контролер, тем труднее ему приходится. Григорий Данилович в самом начале встревожился, с каким болезненным раздражением встретили его появление: под кого, мол, копаете? Кое-кто даже стал выражаться на командирском наречии: дескать, прикажу — и выкинут из расположения части. Каково?!

В конце концов, Григорий Ложечник получил задание не искать компромат на министра, а собрать факты для анализа об использовании авиации в необычайно трудный с топливом период. Но и возводить кого-то в ранг неприкасаемых, в зависимости от размера занимаемых кресел и золотистости погон, что характерно для советского социализма, было бы государственной ошибкой. В конце концов, каждый налогоплательщик вправе знать, как расходуются его деньги, в том числе и на полеты.

Но перейдем к фактам. В части сообщили, что полет ТУ-134 выполнялся по боевой, так сказать, нужде — в соответствии с программой боевой подготовки военно-транспортной авиации. Цель — залететь как можно дальше и сесть на другом аэродроме. В данном случае — в Ростове.

По объяснению командира в/ч 06752 полковника Ю.Кутявина, в город Ростов вылетели министр обороны П.Козловский и его первый заместитель А.Тушинский.

Насколько соответствует курсу боевой подготовки, задачам полета на максимальную дальность нахождение на борту самолета двух генералов, выяснить не удалось. Должны оставаться в армии хоть какие-то военные тайны!

В полетном листе (очень строгом документе) указывается цифрой количество, будем говорить так, пассажиров. А вот в приложении к полетному листу в обязательном порядке проставляется фамилия каждого, кто поднялся на борт, с указанием степени причастности к армии.

Кстати, согласно приказу министра обороны СССР от 30 апреля 1991 года "О мерах по улучшению организации и повышению эффективности воздушных перевозок в ВС СССР", нахождение штатских на бортах военных самолетов допускается. Правда, за плату. Пусть вас не удивляет ссылка на приказ отставного министра несуществующего государства — иных документов в Республике Беларусь не сочинили, а потому руководствуются старыми.

Так вот, по-прежнему имеет силу инструкция, по которой должно быть составлено три экземпляра списка пассажиров. Один — для командира экипажа, другой — для диспетчера аэродрома вылета, третий остается в кармане старшего группы. Список — не формальность, а отчетный документ, в него заносятся номера командировочных удостоверений, сведения о количестве мест и весе багажа, сведения об оплате за перевозку пассажиров и багажа. Потому он должен храниться в штабе части вместе с полетным листом в течение двух лет. Полетный лист в штабе есть, а списка пассажиров нет.

Встает вопрос, а кто был старшим группы? Дело в том, что министр обороны П.Козловский в день вылета считался отпускником. Из неофициальных источников поступали сведения, что министр летел как бы в командировку для переговоров с руководством военного округа на предмет перевода одной из частей, после чего намеревался отдыхать с семьей в Сочи.

Но неофициальные сведения и есть неофициальные, их к делу не подошьешь. Возможно, министр-отпускник имеет право летать на самолете, хотя факт переговоров с разными по рангу должностными лицами вселяет сомнение.

По сообщению коммерческого отдела департамента гражданской авиации и финансовой службы ВВС Министерства обороны, коммерческая цена рейса до Ростова и обратно составляет 3 миллиона 900 тысяч рублей.

В промежутке с 25 июля по 5 августа выполнено также два рейса на ИЛ-76 в Крым. Перевозились туда на отдых дети военнослужащих-авиаторов. Приятна родительская забота, ничего не скажешь. Но откуда кастовая избирательность? На чем тогда прикажете перевозить детей танкистов, артиллеристов?

В армии Беларуси нет достаточной нормативно-правовой базы по выполнению рейсов. Это дорого обходится бюджету.

За тот же рейс в Ростов и обратно, будь это заказ, нужно было бы уплатить, как выше подчеркивалось, почти четыре миллиона рублей. Рейс, выполненный в Краснодар на самолете АН-12, оценен в 3 миллиона 762 тысячи рублей.

Летают, как видите, самолеты. Жгут топливо. С пользой ли? Судите сами...

❑

**Кстати...**

А вот пример нормального, понятного всем убытия в отпуск государственного служащего весьма высокого ранга.

Первый заместитель Председателя Совета Министров Беларуси Михаил Владимирович Мясникович летел в Сочи 6 сентября рейсом БК 7795. Уплатив, разумеется, за авиабилет почти тридцать тысяч рублей. Летел как любой гражданин Беларуси. Его соседом в салоне самолета был журналист "Народной газеты"...

## Почем валюта?

**С 9 сентября Национальным банком Республики Беларусь установлены курсы иностранных валют**

| | Единый курс | Курс обязат. продажи | К долл. США |
|---|---|---|---|
| 1 австрал. доллар | 1,296.00 | 324.00 | 1.5432 |
| 1 австр. шиллинг | 176.20 | 44.05 | 11.3507 |
| 1 фунт стерлинг. | 3,058.39 | 764.60 | 0.6539 |
| 10 бельг. франков | 572.74 | 143.19 | 34.9199 |
| 1 немецк. марка | 1,240.08 | 310.02 | 1.6128 |
| 1 голланд. гульден | 1,105.15 | 276.29 | 1.8097 |
| 1 датская крона | 300.88 | 75.22 | 6.6472 |
| 100 итал. лир | 128.02 | 32.01 | 1,562.2559 |
| 1 канад. доллар | 1,509.67 | 377.42 | 1.3248 |
| 1 норвеж. крона | 284.16 | 71.04 | 7.0383 |
| 1 доллар США | 2,000.00 | 500.00 | 1.0000 |
| 1 фин. марка | 349.63 | 87.41 | 5.7203 |
| 1 франц. франк | 352.60 | 88.15 | 5.6721 |
| 1 шведск. крона | 252.94 | 63.24 | 7.9070 |
| 1 швейцар. франк | 1,409.95 | 352.49 | 1.4185 |
| 10 японск. иен | 192.58 | 48.15 | 103.8529 |
| 1 ЭКЮ | 2,344.40 | 586.10 | 0.8531 |
| 10 испанск. песет | 151.74 | 37.94 | 131.8044 |
| 10 греч. драхм | 87.12 | 21.78 | 229.5684 |
| 1 ирландск. фунт | 2,862.01 | 715.50 | 0.6988 |
| 1 исландск. крона | 28.84 | 7.21 | 69.3481 |
| 1 кувейт. динар | 6,690.75 | 1,672.69 | 0.2989 |
| 10 ливанск. фунтов | 11.60 | 2.90 | 1,724.1379 |
| 10 португ. эскудо | 120.54 | 30.14 | 165.9200 |
| 1 сингапур. доллар | 1,248.04 | 312.01 | 1.6025 |
| 10 турецк. лир | 1.71 | 0.43 | 11,695.9064 |
| 1 эстонск. крона | 155.01 | 38.75 | 12.9024 |
| 1 СДР | 2,816.38 | 704.10 | 0.7101 |
| 1 российский рубль | 1.50 | | |
| 1 укр. карбованец | 0.22 | | |
| 1 литовский лит | 500.00 | | |
| 1 латвийский лат | 3189.80 | | |
| 1 кыргызстан. сом | 339.00 | | |
| Курс клиринговых валют | | | |
| 1 доллар США по расчетам с Кубой | | 500.00 | |

*Вачыма мастака*




Малюнак Алега ПАПОВА.

*Заява апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь*

# Аб развіцці палітычных падзей

Палітычныя падзеі лета 1993 г. сведчаць пра абвальнае банкруцтва дзейнасці наменклатурнага ўрада і камуністычнай большасці Вярхоўнага Савета. Курс на "прыхватызацыю", на захаванне прынцыпаў і сувязей старой адміністрацыйнай эканомікі, бяздарная антыэканамічная разбуральная сістэма падаткаў, штучнае стварэнне праблемы з нафтай, упартае тармажэнне рынкавых законаў і рэформ, элементарнае неразуменне сутнасці фінансава-крэдытнай і грашовай палітыкі дзяржавы, адсутнасць усведамлення мэты грамадскага развіцця нацыі — усё гэта не магло не прывесці да глыбокага гаспадарчага тупіка, росту інфляцыі, цэн, да сацыяльных праблем і бездапаможнасці камуністычнага кіраўніцтва. Стала добра відаць сувязь гэтага кіраўніцтва з імперскай палітыкай адпаведных пракамуністычных колаў Расіі, накіраваная на задушэнне нашай незалежнасці і нашага нейтралітэту, на прымусовы "загон" нашай краіны ў ваенны саюз і калектыўную бяспеку з СНД шляхам стварэння фінансавых, эканамічных цяжкасцей і энергетычнага шантажу. Палітыка наменклатурнага кіраўніцтва ў гэтых варунках павернута не на выратаванне краіны, гаспадаркі, а на здачу дзяржаўных пазіцый незалежнасці і нацыянальных каштоўнасцей, на добраахвотнае паглыбленне ў штучна створаную энергетычную кабалу і ўяўную залежнасць ад Расіі. Гэта ёсць здрада дзяржаве і нацыянальным інтарэсам. Наша грамадства са здзіўленнем убачыла нават "групу таварышчей" (відаць, па венгерска-чэхаславацкаму ўзору) ад дэпутацкай большасці Вярхоўнага Савета, якія накіраваліся ў Вярхоўны Савет Расіі ў Маскву да сваіх камуністычных патронаў з прапановамі ўтварыць адзіную расійска-беларускую дзяржаву. Узамен ім паабяцалі крыху грошай у кошт крэдыту. Такія дзеянні з'яўляюцца парушэннем артыкула 7 (прынятага гэтым Вярхоўным Саветам) дзеючай Канстытуцыі Беларусі, пагражаюць цэласнасці і бяспецы беларускай дзяржавы.

Поспех рэформ у краінах Балтыі (тых самых рэформ, якія прапаноўвала апазіцыя БНФ яшчэ ў 1991 г.) моцна занепакоіў антыдэмакратычныя сілы Расіі і ўсю камуністычную наменклатуру, якая ўжо добра ўсвядоміла свае эканамічныя і палітычныя інтарэсы. Эканамічныя — як групавое накапленне першапачатковага капіталу за кошт дзяржавы ("прыхватызацыя"); палітычныя — як імкненне да кіруючай кансалідацыі, аб'яднання інтарэсаў і захавання савецка-адміністрацыйнай сістэмы з адзіным цэнтрам, адзінай валютай, адзінай тэрыторыяй і г.д. Гэты наменклатурны накірунак у посткамуністычным грамадстве характарызуецца імкненнем сумясціць некаторыя капіталістычныя прынцыпы валодання эканомікай са старой адміністрацыйнай сістэмай і з'яўляецца па сутнасці своеасаблівым "лібералкамунізмам". Адсюль яго дэмагогія пра свабодны рух тавараў і капіталаў і мары аднавіць палітычна-эканамічную адміністрацыйную прастору былога СССР. Але пры гэтым не ствараецца агульнага рынку. Усе імкненні накіраваны на рэанімацыю савецкай імперыі і пазбаўленне незалежнасці, перш за ўсё Беларусі і Украіны.

Менавіта такія задумы і падставы закладзены ў прапанове "лібералкамуністаў" Чарнамырдзіна, Кучмы і Кебіча стварыць славянскі эканамічны саюз трох дзяржаў — Беларусі, Расіі і Украіны. У эканамічным сэнсе гэта ідэя авантурная і нерэальная. Могуць быць два варыянты: альбо скаардынаваныя рынкавыя дачыненні незалежных дзяржаў, альбо адна дзяржава, Расія, праглынае ўсе астатнія (і ў выніку, што найбольш верагодна, развальіцца). Тры прэм'еры выбіраюць другі варыянт. У іх задуме добра праглядаецца імперскі палітыканскі змест і гучыць прапагандысцкі звон ілюзіі нейкага ўяўнага руху з тупіка.

Палітычныя падзеі, якія разгортваюцца ў нашай краіне і вакол яе, паказваюць, што Мінск паранейшаму застаецца цэнтрам міжнароднай камуністычнай рэакцыі, канцэнтруе ў сабе антыдэмакратычныя, антынезалежніцкія афіцыйныя ініцыятывы. Аднак Беларусі не падыходзіць варыянт дзяржаўнага і нацыянальнага самагубства. Наша будучыня — вольная нейтральная краіна ў вольнай Еўропе.

Яшчэ раз хочам падкрэсліць, што нафтавы дэфіцыт на Беларусі створаны штучна беларускай мафіёзнай кампрадорскай наменклатурай сумесна з праімперскімі коламі за мяжой і накіраваны на разбурэнне нашай эканомікі, фінансава-крэдытнай сістэмы, стварэнне сацыяльных цяжкасцей, каб прымусіць Беларусь уступіць у ваенны саюз з Расіяй ("калектыўную бяспеку") і спачатку абмежаваць, а потым і ліквідаваць нашу незалежнасць, падпарадкаваць нашу працу і рэсурсы Расіі. Праблемы з нафтай ужо не існуе ў незалежнай Эстоніі, Латвіі (дзе нават абмяжоўваюць яе ўвоз), у Літве, нягледзячы на эканамічную блакаду (бензіну там у дастатку, і ён утрая танней, чым у Беларусі), у Польшчы і іншых краінах. А яны ж развіваюцца па тых прынцыпах, якія адстойвае Беларускі народны фронт. Праблемы з нафтай у нас увогуле не павінна існаваць.

Грубы разбуральны націск на Беларусь робяць наменклатурныя праімперскія колы і ў фінансавых дачыненнях, перашкаджаюць увядзенню беларускіх грошай. Уздым і развіццё Беларусі — у незалежнай дзяржаве, у самастойнай палітыцы, у хутчэйшых рынкавых рэформах, у свабоднай куплі-продажы энергарэсурсаў, у зніжэнні падаткаў, упарадкаванні бюджэту і ўвядзенні нацыянальнай валюты (талера). Так робяць усе нармальныя дзяржавы.

Мы хочам яшчэ раз адзначыць тое, аб чым гаварылі два і тры гады назад. Ніякія рынкавыя рэформы, ніякія сацыяльныя перамены да лепшага немагчымы без палітычных перамен улады. Пакуль існуе гэты наменклатурны некампетэнтны ўрад, пакуль існуе гэты двойчы нелегітымны Вярхоўны Савет, Беларусь будзе падаць у яму, становішча людзей будзе ўвесь час пагаршацца.

Змяніць становішча зможа толькі ўзгодненая ініцыятыва ўсяго грамадства і масавае яго ўздзеянне на ўрад і Вярхоўны Савет. У такіх варунках адстаўка Саўміна і сфарміраванне часовага кааліцыйнага ўрада на аснове злучэння ўсіх некамуністычных сіл павінна стаць першаснай задачай. Другі крок — самароспуск пад націскам грамадскасці Вярхоўнага Савета і нечарговыя выбары. Законны механізм ажыццяўлення гэтага існуе. Але без масавай і актыўнай дапамогі грамадства, як паказала забарона рэферэндуму, ён не спрацуе. Трэцяй задачай павінны стаць выбары ўсім народам кіраўнікоў мясцовай улады.

Назіраючы самагубную палітыку наменклатуры, мы перакананы, што яна можа прывесці ў хуткім часе да абвальнай інфляцыі і росту цэн, да штучнага энергетычнага голаду, да спынення прадпрыемстваў і росту беспрацоўя. І ўсё гэта будзе адбывацца пад акампанемент істэрычнай прапаганды аб "развале СССР", аб "разрыве сувязей", аб "белавежскіх пушчыстах", аб "канфедэрацыі з Расіяй" (тады "ваенны саюз" — справа вырашаная і наш удзел у расійскіх ваенных авантурах забяспечаны), аб "адсутнасці сыравіны" і да т.п. Словам, аб усім, толькі не аб вінаватасці і адказнасці кіруючай наменклатуры за разбурэнне эканомікі Беларусі.

Мы разумеем, што маскоўскі 1991 год ужо не паўторыцца. Але кожная краіна мае свой "91-ы год". І вельмі важна асэнсаваць яго вопыт, зрабіць правільныя гістарычныя вывады.

**З.ПАЗЬНЯК, У.ЗАБЛОЦКІ, А.ТРУСАЎ, В.ГОЛУБЕЎ, Л.БАРШЧЭЎСКІ, С.НАВУМЧЫК, А.ШУТ, П.ХОЛАД, С.АНТОНЧЫК, Л.ДЗЕЙКА, Г.СЯМДЗЯНАВА, І.ПЫРХ, Б.ГЮНТАР, М.КРЫЖАНОЎСКІ, В.АЛАМПІЕЎ, Ю.БЕЛЕНЬКІ, С.ПАПКОЎ, У.НОВІК, В.МАЛАШКА, С.СЛАБЧАНКА, Я.ЦУМАРАЎ, Л.ТАРАСЕНКА.**

*Пісьмы парламенту і ўраду*

## Ці ёсць у нас улада?

У нашым раёне, а дакладней, на вуліцы Спакойнай (зараз яе назва не адпавядае рэчаіснасці), даўно запланавалі будаўніцтва прыватных гаражоў. Але ж ніхто не думаў, што весці яго будуць з такім размахам. Дабраліся нават да берага рэчкі Мухавец. Ці трэба казаць, што гэта супярэчыць прыродаахоўным нормам?

Мы неаднаразова звярталіся ў гарвыканкам да галоўнага архітэктара, але адказу не атрымалі. Напісалі пісьмо на імя Старшыні ўрада рэспублікі, і толькі тады заварушыліся ў Брэсце... 26 кастрычніка 1992 года атрымалі ліст за подпісам галоўнага архітэктара горада Гапіенкі, у якім паведамляецца, што "строительство гаражей на отведенном участке по ул.Спокойной, 9/1, согласно ранее выданной схеме, отменено". Па гэтым пытанні нават прынята спецыяльнае рашэнне выканкама.

Але ўсё гэта — пыл у вочы. Будаўніцтва гаражоў працягваецца, а гарадская ўлада быццам бы нічога не ведае і не бачыць. Пытаемся ў тых, хто ўзводзіць гаражы, хто ім гэта дазволіў. А яны ў адказ з усмешкай: маўляў, мы яшчэ раней грошы заплацілі. Па ўсім відаць, "свае людзі". Мабыць, сапраўды, каму трэба далі "на лапу"...

Няўжо зусім няма ўлады і справядлівасці?

**Жыхары вул. Спакойнай у г.Брэсце: ЗДАНЕВІЧ, ПРАКАПЧУК, ЛЕВАНЮК, БОЙКА і інш.**

*Здарэнні*

## І трэба ж было турку падвярнуцца...

**Вось ужо, сапраўды, смерць не ручаіна — не пераскочыш.**

Ні сном ні духам, як кажуць, не ведаў гамяльчанін (асоба пакуль што не выяўлена), які выехаў раніцай з дому на веласіпедзе, што стане ахвярай турэцкага вадзіцеля. У сваю чаргу Гок Нехаці, накіроўваючыся ў Санкт-Пецярбург, праехаў родную Турцыю, Румынію і Украіну, а пры ўездзе ў Гомель, у раёне рэстарана "Чабарок", стаў удзельнікам недарэчнага дарожнага здарэння. Адарвалася правае задняе кола яго аўтамабіля і цяжка траўміравала веласіпедыста, які праз суткі памёр у бальніцы.

**Віктар КОТАЎ, Белінфарм.**

г.Гомель.



*Інфармацыя да роздуму*

# Як жа нядаўна гэта было!..

Сёння ў Мінску пачне работу Кангрэс народа Беларусі. Ініцыятарамі мерапрыемства з такой назвай выступілі ПКБ, ДСПС, Славянскі сабор "Белая Русь", Саюз афіцэраў, ветэранскія арганізацыі і іншыя фарміраванні левага кірунку, якія ў пачатку лета ўтварылі Народны рух Беларусі (НРБ).

Жнівеньскія заявы Каардынацыйнага камітэта НРБ сведчаць, што галоўнай тэмай гаворкі на форуме стане крытыка "антынароднай змовы ў Віскулях" і выпрацоўка шляхоў аб"яднання Беларусі з Расійскай Федэрацыяй, іншымі краінамі былога СССР.

Сёння, здаецца, многія ўжо забыліся, што Белавежскія пагадненні дружна вітала і славіла ў свой час большасць Вярхоўнага Савета.

Спадзяёмся, што ўдзельнікам Кангрэсу і нашым чытачам будзе цікава прыгадаць атмасферу, якая панавала ў парламенцкай зале 10 снежня 1991 года падчас ратыфікацыі дакументаў, падпісаных у Віскулях. Успомнім, што гаварылі тады дэпутаты.

Вось дакумент — вытрымкі са стэнаграмы сёмай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Зянон Пазьняк:** "Пагадненне ў рознай ступені карыснае на бліжэйшы час для ўсіх трох рэспублік, аднак па перспектыве яно выгаднае толькі Расіі дзеля ажыццяўлення яе геапалітычных і вялікадзяржаўных мэт, якія яна асабліва і не хавае".

**Альберт Кавалёў:** "При всей неоднозначности этого соглашения, я считаю, что в целом работа руководством нашей республики — и Станиславом Станиславовичем, и Вячеславом Францевичем — проведена в нужном направлении. Как бы мы ни смотрели в далёкое будущее, сегодня это правильная политика. Я выражаю мнение всех, с кем мне пришлось вчера разговаривать. Мы, откровенно говоря, не только одобряем, а просто восхищены этой хорошей позицией. Я считаю: нужно как можно быстрей готовить документы к ратификации этого соглашения... В заключение скажу, что меня, например, это соглашение просто заставляет как можно быстрее крутиться, работать. Я считаю, что наши люди ответят на него хорошей и дружной работой".

**Анатоль Нятылькін:** "Уважаемый Станислав Станиславович, уважаемый Вячеслав Францевич! Я хочу обратиться прежде всего к вам и выразить свою глубокую признательность и благодарность вашей политической мудрости и, я бы сказал, мужеству за то, что вы приняли, подписали. И мне хочется верить, что вы были инициатором того, что произошло у нас в республике. Это очень важный для всех нас и прежде всего народов Беларуси, Украины, РСФСР документ. Я лично говорю вам большое, большое спасибо.

Лично я считаю, что мы все облегченно вздохнули, когда это случилось".

**Аляксей Даўлюд:** "Как член Совета республик, делегированный в этот небезынтересный орган вами, без помощи специалистов из Кремля досконально изучил проект новоогаревского документа и пришел к выводу, что так называемый Союз Суверенных Государств нашей республике суверенитета не добавит. Поэтому при рассмотрении проекта на сессии Совета Республик 3 декабря выступил против обсуждения, так как считал, что только республиканский парламент должен давать полную оценку таким документам. Я приветствую соглашение о создании Содружества Независимых Государств и призываю вас поддержать данный документ, потому что это скорее всего единственный выход из политического, экономического и морального кризиса, в который завел нас Центр. Второго пути у нас сегодня просто нет".

**Валерый Ціхіня:** "Прежде всего я хотел бы обратить внимание, уважаемые народные депутаты, на то, что Председатель Верховного Совета нашей республики Станислав Станиславович Шушкевич, подписав соглашение о СНГ, тем самым превысил свои полномочия. И не надо быть юристом, чтобы сделать такой вывод. Ни Верховный Совет нашей республики, ни тем более белорусский народ не уполномачивали Председателя Верховного Совета на акцию, которая имеет для нашего народа судьбоносное значение".

**Іван Жыдзіляеў:** "Я, признаться, получив известие о том, что такой договор подписан, был необычайно счастлив. И был счастлив тем, что такое соглашение подписано именно в Беларуси. Поэтому все попытки и крайне левых, и крайне правых обвинить товарища Шушкевича в том, что он превысил свои полномочия, я считаю, просто не состоятельны. И сегодня я, наверное, от большинства из вас могу осознанно и с чистой совестью сказать большое спасибо за то, что такой договор есть, и что такой договор начнет работать.

Сегодня могут критиковать позицию Правительства и позицию Председателя Верховного Совета и оппозиция, и представители Центрального Комитета партии. Но, к сожалению, ни та, ни другая стороны не внесли ничего более конструктивного. И та позиция, с которой выступают сегодня и представитель оппозиции, и представитель Центрального Комитета, — все критиковать, все начисто отметать, мне, например, уже надоела. Поэтому надо, наверное, объединяться и надо работать".

**Іван Данілевіч:** "Да, можно найти юридические придирки, уважаемый народный депутат Тихиня, к поведению нашего уважаемого народного депутата и Председателя Верховного Совета Шушкевича. Да, можно найти какие-то придирки и к Вячеславу Францевичу. Но в данной ситуации и в данных обстоятельствах другого выхода, я считаю, не было и не будет.

Долг наш — ратифицировать этот Договор. Ратифицируем — мы покажем, что мы зрелый парламент, и народ наш оценит наши действия. Долг наш — денонсировать договор 1922 года. И долг наш — отозвать депутатов, которые сидят сейчас в нужном парламенте в Москве, а сами мы должны заняться серьезной работой".

**Мікалай Лакцюшын:** "В народе часто в экстремальных условиях задают вопрос: чем отличается умный от мудрого? Так вот, по этой обстановке, которая сложилась у нас в Союзе, наше союзное руководство нельзя назвать умным и тем более мудрым.

Я выражаю свое мнение и мнение своих товарищей, с которыми я беседовал, мнение избирателей. Они одобряют решение нашего правительства, руководства республики. И будем надеяться, что депутаты разделяют это мнение: это лучший из вариантов. И нам надо действительно ратифицировать этот Договор. Если мы сейчас затянем время, начнутся противоположные действия со стороны союзного правительства. Они понимают, что сейчас оказались не у дел. И Горбачев, и Яковлев, и Шеварднадзе, и все деятели, которые создали такую обстановку в стране. Они сейчас поняли, на какой грани находятся. И поэтому давайте, товарищи депутаты, я вас призываю, одобрим решение нашего руководства и ратифицируем Договор".

**Уладзімір Кулакоў:** "Я считаю, что нам нужно поддержать заключенное соглашение и одобрить действия руководства республики. Я не согласен с теми депутатами, которые считают, что руководители нашей республики наделены определенными правами. На то они и руководители республики, чтоб отстаивать интересы Беларуси и потом представлять заключенное соглашение на утверждение Верховного Совета. Здесь полностью соблюдено положение Конституции".

**Уладзімір Кавалёнак:** "Считаю, что Председатель Верховного Совета товарищ Шушкевич имеет право подписывать документы подобного ранга. И он не в состоянии будет каждый раз возить с собой весь Верховный Совет".

**Уладзімір Станкевіч:** "Вы меня извините, но когда выходит народный депутат, юрист, и когда говорит, что не надо быть особым юристом, чтобы увидеть, что Председатель Верховного Совета превысил свои полномочия, на всю республику заявлять. Вот закон. Закон Республики Беларусь: "Аб парадку заключэння, выканання і дэнансацыі міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь". Кстати, принят месяц назад. Я зачитаю вам статью 8, чтобы не теряться в догадках. "Председатель Верховного Совета Республики Беларусь, Председатель Совета Министров Республики Беларусь и министр иностранных дел Республики Беларусь вправе вести переговоры и подписывать, уважаемый депутат Тихиня, международные договоры Республики Беларусь без специальных полномочий".

**Міхаіл Мачуленка:** "Я бы, наверное, не вышел за эту трибуну, если бы из уст некоторых народных депутатов не раздался упрек в адрес тех народных депутатов, которые активно выступали за совершенно иной договор об обновленном Союзе. Я как раз из той когорты и ничуть тем самым себя не упрекаю, ничуть не отрекаюсь от того, к чему призывал и в чем сам участвовал. Но представленный нам документ и те события, которые произошли на территории Беларуси в последние двое суток, я без натяжки говорю, позволяют каждому белорусу гордиться взвешенностью, трезвостью и мудростью наших государственных деятелей в лице Председателя Верховного Совета и Председателя Совета Министров. Почему? Потому что как раз этот документ, исходя из реалий, сложившихся в последнее время, дает возможность избавиться от пристрастий и преодолеть, что называется, короткое замыкание в политическом мышлении каждому".

**Падрыхтаваў да друку С.Афанасьеў.**

